ЯКУБ КОЛАС

# МІХАСЁВЫ ПРЫГОДЫ



ЯКУБ КОЛАС

# МІХАСЁВЫ ПРЫГОДЫ





ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУС
ЮНДЗЕТСЕКТАР
МЕНСК ★ 1935





I

## НА ПРАДВЕСНІ

Надакучыла дзецям зіма:
Ім разгону зімою няма.
Маркотна Міхасю,
Алесю і Ясю,
Валодзю, Андрэю
І ўсім, хто дурэе
І хоча разгону—
Ну, Юрку, Сымону,
Марынцы, Тацянцы,
Аленцы, Мар'янцы
і Інцы і Юльцы,
Натальцы, Ганульцы,—
Ну, словам дзяўчатам
І хлопцам,
тым хватам,

Сагналі ахвоту на санках,
На лыжах, каньках і лядзянках.
Зімою забавы
Не дужа цікавы:
Марозы, завеі, і нос пасінее,
Чуць выскачыш з хаты
На холад зацяты.
Хваробы зімою
Ідуць чарадою:
То свінка, ангіна,
Адзёр, шкарлатына
І біч жываглыт,
Люты, злы дыфтэрыт...
Надакучыла дзецям зіма,
І чакае вясны іх гурма.

II

Налучыла зімою Міхася бяда:
Захапіла Міхася хвароб чарада.
Прыстала ангіна,
А потым адзёр.
Чуць-чуць з дыфтэрыту
Міхась не памёр.
Забіла дыханне
І горла, і нос.
Ой, колькі пакуты
Міхась перанёс!
Ды ўсё-ж далі рады
Яму дактары.
Вакцыну ўлівалі
Не менш разоў тры.
Каб не вакцына,
Памёр-бы хлапчына.
І дні і нядзелі
Ляжаў у пасцелі
Слабенькі,
Худзенькі
Малы Міхасёк,
Як падкошаны той васілёк.
І высах-жа бедны!
А тварык стаў бледны,
Празрысты, бы з воску.

Доктар дзіцячы
Лячэнне прызначыў—
Адправіць Міхася на вёску.
Паветрам гаючым
І сонцам бліскучым
Міхасевы сілы ўзмацніць.
На ўлонні прыроды
Такія прыгоды,
Што горад іх нават не сніць.

Аб гэтых прыгодах якраз
І павядзецца тут сказ.



## III

## НА ЎЛОННІ ПРЫРОДЫ



Дзе-ж Міхась знайшоў прыпынак
У свой летні адпачынак?
Адкажу вам за Міхася:
У пасёлку пры калгасе.
І мясцінка самавіта:
Там шумела морам жыта,
А ячмень, густы, зялёны,
Адбіваў усім паклоны:
Ветру, сонцу, дробным пташкам
І кузуркам і букашкам,
Мілым дзеткам—Насці, Стасю
Ну, і нашаму Міхасю.
Для Міхася тут выгоды:
Тут сады і агароды,
Дзе так пышна цвітуць макі,
І дзіцячыя прысмакі:
Морква, рэпа спакусная.
Рэдка хто іх абмінае,
І Міхась не раз украдкам
Завітае к гэтым градкам.
А якія тут пясочкі!
Проста цешаць яны вочкі
І здаецца клічуць самі:
„Пагуляй, Міхаська, з намі!"
Ну, як тут не пагуляць,
Не пабегаць мінут пяць
Ды чаму не разгарнуцца
Ды ў пяску не скачануцца?
Бегаў тут Міхась, гуляў
Ды з пясочкам размаўляў.
Не—цікавая мясцінка!
Што ні крок, то ўсё навінка
І для вока і для вуха.
Ты глядзі сабе ды слухай,
Прыглядайся ды гуляй,
А дзе трэба—памагай!

Унь ускрай сядзібы
Конь паўзе сталёвы,
Рэжа лусты-скібы,
Хлебу тчэ асновы,
Поўніць шумам долы
Дужы ды імклівы.
Ногі яго—колы,
Дым заместа грывы.
Вось які ён воін,
Адгадайце-ж, хто ён?
Дзесь у лесе звонка
Граюць-трубяць трубы...
Рух, жыццё, гамонка—
Падзівіцца люба!
Тут Міхасю воля,
Тут прастор шырокі,
Любіць-жа ён болей
Рэчку і затокі.



IV

Талька—слаўная рачушка,
Грунт яе пясчаны,
Бераг мяккі, як падушка,
Дзірваном засланы.
Луг квяцісты па ўзбярэжжы,
А трава, як лава.
Па грудах дубы, як вежы,
Паглядзець цікава.

А буслоў тых і не злічыш—
Цэлыя брыгады!
І такія іх аблічча,
Бы вядуць нарады.
Тут і чаплі, гусі, качкі
І сіваваронкі.
Колькі руху і гарачкі,
Спеву і гамонкі!
А звярніце вашы вочы
Вось у гэту Тальку:
Зачаруе, каго хочаш—
Лёню і Натальку.

Тут убачыце вы
Свет вялікі, жывы
І дзіўны таксама.
Асабліва вось тут,
Калі ўзыдзеш на груд
Ды зірнеш на яму.
Гэта яма—ой, глыб!
Ну, а рыб-жа тут рыб—
Процьма незлічона!
Гэту яму, сказаць,
Азярком лепш назваць
Па яе разгону.
А як выйдуць ляшчы,
Хоць у ладкі пляшчы:
Проста, ну як плашкі!
Шчупакі, як ваўкі,
І іх звычай такі
І ўсе іх замашкі.
Нерухома ў траве
Па гадзіне, па дзве
Тояцца, пражоры.
Бойся, язь, шчупака!
Лешч, не дай зевака,
А то будзе гора!
У такой глыбіні
Ёсць язі, акуні,
Голаватні, плоткі.
А кялбоў і яршоў
І другіх малышоў
Не злічыць на соткі.
А як бухне тут сом,—
Скаланецца кругом,
Ну, уся азярына.
Вадзяныя кругі
Ліжуць, б'юць берагі—
Сом, відаць, махіна.

І страх забірае Міхася,
І трошкі цікавасць, вядома:
Вось кінуць-бы бомбаю ў сома,
Калі гэты сом на папасе!

V

## РЫБАЦТВА

Забрала Міхася турбота,
Падшыбла Міхася ахвота,
Аб гэтым сказаў ён і маме:
Рыбу павудзіць на яме.

Юрка ссукаў яму лёску,
Ванька зрэзаў бярозку—
Вышла вудзільна на яць,
У рукі было што ўзяць.

Кручок, паплавок адмысловы—
Былі там майстры і галовы,
І быў у іх творчы размах,
Рабілі яны не за страх.

Затое-ж і вуда—адна любата!
Ну, сцеражыся цяпер, драбната,
Рыб'я сямейка,
Ёрш і аклейка!

Не адзін Міхась на яме:
Тут, па ўзберагу ракі,
У спаборніцтве з яршамі
Селі чуйна рыбакі.
Тут і Лёнька з стражы,
Хлопчык нехлямяжы,
Тут і Ванька з будкі,
Дасціпны і гнуткі,
І Аўсейчык Мішка,
Паўлік, Цішка, Грышка,
Хоць сабе малыя,
Але удалыя.

Закідаюць свае вуды,
Хто на хлеб, на чарвяка,
Не глядзіць ніхто нікуды,
Воч не зводзіць з паплаўка.



І хвалююцца нямала
Нашы хлопцы-рыбакі,
Чуць-чуць рыбка заклявала,
І заскачуць паплаўкі.
Тут патрэбны спрыт, знароўка
І характар клёву знаць,
Умець трэба ў часе лоўка
Рыбку хітрую падцяць.
    Прыглядаўся Міхась,
Як клюе плотка, язь,
Ёрш і лешч і яльчык.
І бывала ярша—
Вы не смейцеся, ша!—
Выцягне ён з пальчык!
Ды што ёрш?—акуня—
Гэта вам не гульня—
На кручок падчэпіць!
І пры гэтым не раз
Слова скажа ці сказ
Як у сцэну ўлепіць.
Раз здарэнне было—
Шчупака з поўкіло
Выцягнуў, ей-права!
Ну-ж і радасць была!
Абышла з поўсяла
Пра Міхася слава.
А той момант, калі
Быў шчупак на зямлі,
Не забыць ніколі.
Адкусіў ён кручок
Гэты гад, шчупачок,
Лежачы на доле.
Быў тут страх, крык і смех,
І Даніла падбег
Памагаць Міхасю.
А Міхась ужо сам
Адзін справіўся там
І справіўся ў часе!

VI

Раз Міхаська быў на яме.
Сеў сабе на беражок.
Там пясочак, муражок,
Азярко само, бы ў раме —
Зелень яркая, ліства
І высокая трава.
Збоку роўны вал чыгункі,
Мост жалезны над вадой,
Дзе вагоны чарадой
На вадзе кладуць рысункі
Ды бягуць, ды грукацяць
І Міхася весяляць.
Ён сядзіць і пазірае,
Як варушыцца вада,
Дзе рыб ходзіць грамада,
Як на сонцы яна грае,

Як у букце пад кустом
Баўтане шчупак хвастом.
Тыя-ж ластаўкі-вяртушкі
У надводнай цішыні
Не нацешацца з гульні
Ды такія ладзяць гушкі,

Весялушкі,
Шчабятушкі,

Што ніякі акрабат
Не патрапіць ім у лад.
Вот адна імкне стралою
І адразу звысака
Бух на ўлонне азярка
Дужкай спрытнай, удалою!
Ды так лоўка па вадзе
Рыску крыльцам правядзе.



Пазірае Міхась
На гэтыя з'явы,
Аж выпадак адзін
І дужа цікавы.

Ад Міхася збоку,
Так на сорак крокаў,
Нейкі дзядзька-рыбак
Вартаваў жыўцоўку.

Ён ляжыць і курыць
Ды вачэй не жмурыць—
Ці не возьме шчупак
Плотку за галоўку.

Плотка—нішто цётка,
Каля фунта будзе,
А сама на вудзе.
Прывязь ёй каротка,
Але шнура ніяк
Распусціць не можа.

І вось бачыць Міхась—
Па вадзе нешта шась!
Пэўна плотцы шчупак
Штось зрабіў нягожа.

Аж глядзіць—не тое,
Нешта больш дзіўное
Ды па версе вады
Сучыць нібы палка.

Але раптам у бок
Верне дзіўны плавок—
Ну якраз-жа туды,
Дзе сядзіць Міхалка!

Як зірнуў наш Міхась—
Вуду вобземлю бразь!
— Вуж. . Браткі, вось штука!
— Вуж плыве! Дзядзька, вуж!
— Стой ты, хлопча, не руш,
Можа то гадзюка!
Вуж у бераг паплыў
І аір абкруціў
Скруткам нерухліва.
А сам страшны такі!
Спіна ўся і бакі
Рыжыя на дзіва.
Падбягае рыбак
Ды хапае кіяк
— Гэта-ж, брат, гадзюка
і такая злюка!
Сцеражыся, браток,
Адыдзіся ў куток!





Размахнуўся тут дзядзька калом
Раз—прамазаў! Другі!
Разгарнула гадзюка кругі,
Павярнулася ўверх жыватом.
Падчапіў яе дзядзька на кол,
З вады вынуў на дол.
На пясок, на траву,
Распляскаў ёй ўшчэнт галаву,
І каб больш не было нават паху,
На агонь палажылі кусаху!

## VII

## ЯГАДЫ

Пранясласяя чутка
Па калгасных хатах,
Што суніц у лесе
Нарасло багата,
Што зямля ад ягад
У чырвоных плямах,
Што іх дужа многа
У Ласіных ямах.
Што гэта за ямы?
І чаму Ласіны?
Сам сябе пытае
Розум той дзяціны.
А пра лес Міхась чуў
Проста дзівы-байкі,
Што там ёсць і белкі,
І ласі, і зайкі.
Нават ёсць мядзведзі.
І ваўкі і вепры,
І што страх якія
Ёсць у лесе нетры,
Зараслі густыя,
Пасекі, балоты...
Хочацца Міхасю
Ў лес зрабіць залёты...

Апала раса. Гарачыня.
Хмаркі, як пух лебядзіны.
Апачывае далечыня
Песцяцца ў сонцы лядзіны,
Гудуць аваднi і камары.
Прэюць між лесу балоты.
У лесе глухмень. Ціха ў бары.
Спяць над канавай чароты.
Пад навіссю дрэў, як баразна,
Легла далёка канава.
Дзівота, зірнеш, і навізна—
Дужа Міхасю цікава!

Унь вываратʼ-корч. Страшны такі—
Вусы і губы і вочы,
А корань ўзнят замест рукі,
Нібы схапіць цябе хоча!
Звісаюць імхі з хвой тых, як шоўк.
Можа чые то бароды?
Углядаецца — ша! Там ці не воўк?
Ці не мядзведзь за калодай?
Міхась не адзін, ён і смяляк:
Воўка біць палкай гатовы!
І палку бярэ хлопец не ў знак,
Кій сукаваты, здаровы.
Але іх шчасце—збеглі звяры,
Заяц не высунуў носа.
Схаваўся і ліс дзесь у нары—
Даў бы Міхась ім тут чосу!

Расступіўся лес
Ды ва ўсе бакі,
А на пасеках,
Ух, прастор які!
А трава, трава!
А кусты, кусты!
А навокал хмыз
Ды густы, густы!
А па купінах,
Каля пнёў, лам'я
Чырвань спелая,
Тых суніц сям'я
Нібы ўсыпана
Тут каралямі,
І глядзяць яны
Кралі-кралямі—
Сакавітыя,
Як налітыя,
Ды ўсе ладныя,
Ды пападныя.
У паветры пах
Ад іх носіцца,
Сама ягада
У рот просіцца.

Прыступілі да збору суніц-
Чараўніц,
Захапіліся зборам усе
Пакрысе:
Данік і Юра
І Жэня-панура,
Оля і мама
І Міхась наш таксама,
Сунічку сашчыпле,
Зірне, паварожыць,
Але не ў кубак,
А ў роцік паложыць.
Кошык у мамы—
Тры чверці даўно,
А ў Міхася яшчэ
Не закрыта і дно.
Затое-ж Міхасевы
Губы і шчокі
Раскрасілі ў чырвань
Сунічныя сокі.
Ён ходзіць мурзаты,
Навокал глядзіць.
Вось дзяцел стракаты
На дубе сядзіць.
А там, над балотам,
Сарокі трашчаць.
Прапала ахвота
Суніцы збіраць.
І хмыз надакучыў,
Трава і кусты,
І руку намучыў
Той кубак пусты.
На сонцы—спякота,
У цяні—камары.
Ну, што за ахвота
Хадзіць па жары?



Пасадзілі Міхася на пень
У цяні.
Нацягаўся Міхаська за дзень—
Аддыхні.
Падмацуйся хлябком, галубок,
Пасядзі!
Кошык ягад вось тут і збанок—
Паглядзі.
Набяром ягад кубачак твой
Мы няўзнак.
Міхась толькі кіўнуў галавой—
Няхай так.
Важна сеў Міхась на пні
Між бярозак у цяні,
А суніцы, як блазніцы,
Сталі хлопца спакушаць,
Араматамі дышаць.
А якія сакаўныя!
Проста капае з іх сок,
І цукеркі тут набок!
Хіба ўзяць папрабаваць?
Прысеў Міхась над кошыкам—
Суніц там-жа за край,
А зборшчыкі за пошукам—
збіраюць—ну, няхай.
Міхаська забаўляецца—
Па ягадцы ды ў рот.
Суніц не прыбаўляецца,
Хутчэй наадварот.
Такія-ж, брат, салодкія—
Ну, проста не ўтрываць!
Размовы тут кароткія—
Яшчэ дай спрабаваць!
І ён зачэрпнуў жменяю,
Зачэрпаў раз-другі.
Сунічак меней, меней—
Апалі берагі...
Эх, збіўся ты з капыціка,
Міхаська-галубок!
... Прыходзіць самакрытыка
Разблытваць той клубок.

І давай Міхась
Выхадзіць з бяды,—
Узмяшчаць прарыў
Ды хаваць сляды.
Узяў кошык ён
І пачаў трасці,
Каб суніц вяршок
Мог са дна ўзрасці.
Страсяне, зірне—
Вось праявіна:
Яшчэ большая
Ў кашы яміна!

Трос іх, трос Міхась—
Праца марная,
Ці работа ўся
... Не ударная?
Толькі сок пацёк
З таго кошыка,
А карысці той—
Ні поўгрошыка.
Ён ізноў трасе.
Строс іх, збіў няўзнак
У чырвоны сыр,
У густы камяк.

Паставіў ён кошык на пень,
Куды хочаш яго, туды дзень.
Вось бяда, дык бяда.
Нецікава!
І чакае Міхаська суда
І расправы.
Невясёлы сядзіць
Бы ў цямніцы.
Лепш было-б не хадзіць
У суніцы.

І чуе Міхаська—го-гоо!
Міхась адгукнууся—чаго-о?
А голас яго невясёлы,
А вочы спушчаны к долу.
Ідуць—маці, Данік, Юра...
Ну, пачнецца зараз бура!
Прышлі. Як зірнулі на кош—
Малюнак не дужа харош:
Ягады ў камяку,
Кош увесь у саку.
Сок расцёкся вакруг,
Стаў прыманкаю мух.
А Міхась—мурзаты,
Выгляд вінаваты.



Напаў на Міхася Даніла:
— Сякі і такі ты дурыла!

Ты – шкоднік,
Нягоднік!
Што-ж ты нарабіў?—
Чуць Міхася не біў!

І Юркавы чуліся словы—
Сякі і такі безгаловы.
Вушы яму адарваць!
У лес яго болей не браць!
Міхась апусціў вачаняты
І маўчыць—вінаваты!
Здорава бралі Міхася,
Покі злосць улеглася.
А маме дык стала
Міхаські шкада.
— Ну годзе крычаць вам!
Такая бяда!
Утрэсваў іх трошкі,
Рабіў не на зло—
Каб болей сунічак
У кошык вайшло...
Прызнайся, Міхаська, ты мне:
Так было гэта ці не!—
Павесялеў наш бядак,
На запытанне адказвае:—Так!

Дадому ішлі жартавалі,
І ясны Міхасеў быў твар,
Хоць жартам яго і празвалі—
Ягадны спец-сыравар.

## VIII
## ГРЫБЫ

Адышлі суніцы,
Выбралі чарніцы,
Перастала рыбка
Брацца на кручок.
Ідуць у брусніцы
Дзеўкі, маладзіцы,
А Міхася цягне
Бор і хвайнячок.
Дарыць бор сасновы
Падарунак новы:
Сталі паяўляцца
Па лясах грыбы.
Да ці знойдзеш словы
Апісаць іх сховы—
Хвайнякі, палянкі,
Беразняк, дубы?
Апісаць дарожкі,
Дзе хадзілі ножкі
Грыбнікаў заўзятых,
Ну, як наш Міхась.
Пачакайце трошкі—
Абмінем парожкі,
Грэблі, раўчавіны,
І пяскі, і гразь.
Эх, як слаўна ў лесе,
У зялёнай стрэсе,
Дзе сукі-галіны
Вывелі шатры!
У шатры-навесе
Вы наглядзіцеся
Як жывуць, якія
Ёсць там жыхары...







Ды ўжо лепш у часе
Вочкамі Міхася
Паглядзець на з'явы,
Што даюць лясы.
Слухай, Валік, Тася,
Ты Алёнка, Бася:
З кошыкам Міхась наш
Ідзе ў верасы.
Не адзін ён—з татам,
Дружба іх заўзята;
Аднаму-ж малому
Лёгка заблудзіць.
Ды і страшнавата,
А лес так зацята
Цёмнаю гушчэчай
На цябе глядзіць!
Грае чырвань на усходзе,
А Міхась ужо ў паходзе,
У руках кашолка, нож—
Без нажа грыбнік не гож.

Разгарнууся ва ўсе бокі—
Па ўзгорках лес высокі,
І такі прыемны пах:
Як нюхнеш, дык скажаш: „ах!“
А імхі—зялёны, белы—
Рассцілаюць коўрык цэлы.
Ускрай сцежак—верасок,
На дарожцы—бель-пясок.
Хто не пройдзе па трапіне,
На пясочку след пакіне.
А чые-ж гэта сляды?
Хто ішоў тут і куды?
Ды якія капцюрышчы!
Гэта, пэўна, след ваўчышчы.
— Тата, глянь, зірні сюды:
Ці не воўчыя сляды?
Міхасёк сляды чытае,
Што няясна, запытае.
Паглядзелі—так і ёсць:
Воўк ішоў, нязваны госць!
І Міхасю страх цікава.
Ён ідзе, бяжыць рухава,
Галасок яго звініць—
Ёсць аб чым пагаманіць.
Лес патроху ажывае
Ды гаворыць, ды спявае.
Свішча тонка арабок,
Там варкуе галубок.
Цацярук, як пад зямлёю,
Дзесь тукуе за гарою.
А дзятлы, як дактары,
Бор выслухваюць стары,
Ды, прысеўшы на галіне,
Б'юць насамі па хваіне.
А вунь там, на стромкай елі,
Дрозд выводзіць свае трэлі,
Сойкі голасна крычаць,
Ястрабы ў гняздзе пішчаць.
А там нейкі абармот
Нібы дражніць: „Дод! дод! дод!“

Вышлі на поле
Каля Загібелькі.
Рэдка пабачыш
Гэтакай зямелькі:
Суха і чыста,
Вымецена нібы
Вёска на горцы.
Дрэвы ўскрай сядзібы.
Важна стаяць там
Дзядзькі-азяроды,
Дбала вартуюць
Гумны, агароды.
Буслы на хвоях
Маюць свой будынак,
Вуллі-калоды
Там знайшлі прыпынак.
Хвойнік навокал
Ды густы, як шчотка.
Бор і пралесак
Між ім, як бародка.

Лес і пералескі
Разам з хвайнякамі
Страх як багаты—
Чым?—Баравікамі!
Шапкі іх чорны,
Самі яны крэпкі:
Возьмеш у руку—
Гіпсавыя злепкі.





Звярнулі з дарогі ў барок,
Агледзелі першы грудок —
Пуста, адны мухаморы.
Вось горка. На горцы пясок.
Яловец. Сям-там верасок,
Сям-там равочкі-разоры.
І чуецца радасны крык—
Гукае Міхась: „Баравік!“
І сам прысядае на дол
Ды вочкамі водзіць вакол.
Аж зірк—між калюшак
Другі капялюшак!

І што за асоба!
Краса і аздоба!
Не чорны—хутчэй сіваваты.
Дзябёлы, таўсматы,
На ёмкім камлі
Сядзіць пры зямлі,
Як нейкі асэсар
Ці важны прафесар.

Ну, проста не зводзіў-бы воч!
Аж глянуў—і трэці наўзбоч!
І радасць Міхася забрала,
Міхасева сэрца ўзыграла.
Ён радасна справіў галас:
— Сюды ідзі, тата!
Грыбоў тут багата—
Баравіковы калгас!
Акрыяў яго дух,
Забраў яго рух.



Ён тупае, ходзіць,
Вачэй з іх не зводзіць,
    Разгортвае шышкі.
    — Ну, што-ж?
Ідзіце, брацішкі,
    У кош!
Ды грыбнік Міхась наш не просты:
Спрыяе ён грыбнаму росту—
З карэньчыкам не вырывае,
А ножыкам—чык!
Каб вырас другі баравік:
Ад кораня нітка адходзіць жывая,
    А з нітачак гэтых,
    Што йдуць ад карэння,
    Новае выйдзе
    Грыбоў пакаленне.
    Вось у чым штука,
    Грыбная навука.
Хадзілі па горцы
Туды і сюды,
Хавалі на вырaст
Грыбок малады,
Ростам з арэх—
Браць такіх грэх...
Багатая тут ім
Спажыва была:
Грыбоў каля сотні
Ім горка дала!



Да што за грыбочкі
    На горачцы той!
І горку назвалі
    Яны „залатой“.
Другія мясцінкі
    Пайшлі аглядаць,
Дзе водзіцца гэта
    Грыбная знаць:
Груды, пералескі,
    Ускрайкі баркоў,
Дарожкі і сцежкі
    Паміж хвайнякоў.
Снуюць, аглядаюць,
    Ну, кожны гарбок,
Уздушынку дола,
    Галінкі, ламок.
І бачыць Міхаська—
    Мільгнуў баравік!
Ён весь захадзіўся,
    Як той рухавік.
Падбег, прысядае
    Ды зорыць, як хорт.
Аж глянуў—паганка!
  Бадай цябе чорт!
Такую зрабіла абразу!
    Узлаваўся Міхась:
З коранем вырваў паганку-заразу
    Ды аб пень яе лясь!
А сам азірнуўся,
    Малы наш буян,—
Ці бачыў хто ў лесе
    Яго той падман?

А следам за гэтым
Другая праява,
Хоць смешная трохі,
Ды болей цікава.

Вось грудок
Пажарок—
Лес гарэў калісьці.
Бачыць—лом,
Моху ком
І сухое лісце.
Можа тут
Шалапут
Баравік стаіўся?
Ды не вер,
Брат, цяпер:
Раз ужо змыліўся!
Ён зірнуў,
Карпануў
І назад адскочыў.
Там залёг
У бярлог...
Што-ж то за клубочак?
Не сцярпеў,
Паглядзеў,
Што-ж гэта быць можа?
І пазнаў,
Загукаў:
— Тата, а вось вожык.
Вожык звіўся ў клубок
І маўчок—
І ні чхне, хітруга.



Дай-жа глянуць, дружок,
Галубок,
Што ты за звяруга!
Пакажыся ты нам
Сам-на-сам,
Без сваіх іглятак.
Раскапалі, а там—
Трое важанятак!
І калюшачак пук
І ні ног, ні шыі.
А бадай іх кадук—
Смешныя-ж якія!
Пацешыўся з іх наш хлапец—
Ну, і стварэнні на свеце!
Закрыў ён курганік-капец
І сказаў ім:
„жывеце“.
Аглядзеўшы ўсе хвайнякі,
Грыбныя мясціны,
Груды, раўчавіны,
Ідуць у барок грыбнікі.
Цікавае месца барок:
Таўшчэзныя хвоі
Стаяць у спакоі
І ўвесь аздабляюць лясок.
Навокала вольны прастор,
І тут іх сямейка,
Сасняк-самасейка,
Як шчоточка поверсе гор.
І любіць Міхаська барок
І хвою старую,
Што хлопца чаруе
І здзіўлены пестуе зрок.

А ладная хвоя,
Ну, варта засняць.
Не здолеюць трое
Стан-камель абняць!
Кара—чарапіца,
Галіны—шатры.
Рунее ігліца,
Як жыта ўгары.
На ёй спачывае
Бліскучы прамень—
Усмешка жывая,
Што дарыць ён дзень.
У кроплях расінак,
Як сонца зірне,
Мільёны іскрынак
Гарацъ на сасне.
Калі-ж замірае
Пад вечар абшар,
На хвоі іграе
Багрысты пажар.
І ўсе яе шаты,
І навісь галін,
І комель шурпаты—
Рысунак адзін.



Пазірае Міхаська на хвою,
На загнутыя ў кольцы сукі—
У прыроды свае мастакі—
На шацёр над яго галавою.
І цікава—сукі і галіны
Больш развіты з адной стараны—
Любяць сонца, відаць, і яны,
К поўдню цягнуцца з гэтай прычыны.
Тут Міхась адпачывае
Ды любуецца барком,
Хвояй і баравіком,
Што „рэкордным" называе,
І, на белым сеўшы моху,
Лічыць ён баравікі—
Штук за сто. Трафей які!
Ды сілкуецца патроху.
А як прыдзе ён дадому,
Ды на сена ляжа спаць,
Лес прадставіцца малому,
А ў ваччу грыбы стаяць.





## IX

## УСПАМІНЫ АБ ГОРАДЗЕ

Замаркоціўся лясок,
Змоўк птушыны галасок,
Глуха стала ў полі.
Травы, краскі адцвілі,
Ходзіць вецер па зямлі
Ды чагось скаголіць.

Патускнела яснасць дзён,
Хмары сцелюцца, як лён,
Ды звісаюць нізка.
Залягае, як туга,
На твар далечы смуга—
Восень блізка.
Пасылае ўжо паслоў
Па гусей і па буслоў—
Час ім, час у вырай!
Шлях ім трудны, немалы,
Гуртам радзяцца буслы—
Шырай крыллі, шырай!

Апусцеў разлог палёў,
Трактар песню зноў завёў
Громка, дзелавіта:
„Эй, калгасны вольны люд!
Будзе твой аплачан труд—
Сей-жа ў часе жыта“.

Каля хаты цёткі Каці
Стаіць хата каля гаці,
Дзе на мост ідзе дарога,
Для дзяцей прастору многа.
Тут грудок ёсць, ды сухі
І ўтульны, хоць глухі.
На грудку пясок-жаўток.
Любяць дзеці той куток.
Гэта тут Міхась гуляў
Ды з пясочкам размаўляў,
Ладзіў печы і пячуркі,
Падкапаўшы беражок,
Насыпаў пяску стажок,
Пёк „аладкі“ і „мазуркі“.
А цяпер другі малюнак.
Тут дзіцячы карнавал.
Між дзяцей і наш Міхал.
Ён разгортвае рысунак
Ды расказвае дзятве,
Чым-жа горад той жыве.
Чым ён слаўны, чым багаты,
Як у ім праводзяць святы,
Дні Кастрычніка і Май,
Як там б‘е жыццё праз край.
Слухачоў у Міхася багата—
Паглядзі ды злічы.
Хто-ж яго слухачы?
Тамара, Агата,
Стэфка, Юзэфка,
Кандрат, Ігнат,
Дзямян, Сцяпан,
Пятрок, Змітрок,
Будачнікаў двое,
Ды Сіняўскіх трое,

Пасынак Ахрэмаў
І таксама Эма,
Ну, дачка Хаметы,
Была на час гэты.
 І ўсе слухаюць Міхася,
Прытаіўшы галасы,
Не зважаючы на тое,
Што сваволяць іх насы.

У прамоўцы цюбіцейка
 Чуць трымаецца,
Галасок-жа салавейкам
 Разліваецца.
Лён-валоскі ды ў кольцы
 Пазакручаны.
Пазайздросцяць хлопцы-гольцы
 Такой штучыне.
Нос кірпаты троху ўгору
 Задзіраецца,
Як акенцы, вочы-зоры
 Расчыняюцца.

Ён расказвае
І паказвае
Рухам губ і рук,
Як трамвай ідзе,
Як тады гудзе
Маставіна-брук.

А дадуць званок,
Уцякай, браток,
Не страляй варон!
Сцеражыся, брат,
Хоць які ты хват,
Бо там рух-разгон!
Тут азваўся Кандрат
І сказаў, ды няўлад,
 Недарэчы,
Абы толькі пярэчыць:
— А я стаў-бы і не бег,
Хай сабе-б званілі!—
Паднялі Кандрата на смех,
Кандратаву дзёрзасць разбілі.

Ты, Кандрат, уважай:
Там не месца хвату,
Наляцеў-бы трамвай —
І каюк Кандрату!
Міхась-жа на тую самую тэму
Разгортвае далей паэму...
... І не толькі трамвай—
Ёсць аўтамабілі.
Жыгануць, дык і знай—
Адсякуць поўмілі!
А якія гудкі,
Каб вы знялі, браткі!
Грузавік,
Ну, як бык
Зараве—гу-гу.
Легкавы,
Больш жывы,
Гэтак гукне: рру!
— А ў нас,—
Адазваўся Ахрэмаў Панас—
Ёсць аж тры
Трактары!
Вось гудуць
Дык гудуць!
Ды баразны вядуць
І аўса не ядуць!

— Трактары—гэта што!
А ці бачыў з вас хто
Танкі і танкеты?
А ёсць танк-бранявік,
Што як хмара вялік,
Большы за дом гэты!
Вось калі ён ідзе,
Дык зямля ўся гудзе,
Брук каменны гнецца.
Ён брыдзе па вадзе,
І не спыніш нідзе—
Лес пад ім кладзецца!
Не баіцца балот,
Ломіць плот ды рве дрот,
Вось як павуціну!

І на вочы свае
Сам я бачыў яе,
Гэтую машыну.

Авалодаў Міхась грамадою
І пра майскі парад
Робіць цэлы даклад—
На парадзе ён сам быў вясною
Там стралялі з гармат,
Разоў дзесяць падрад—
Бух! бух! бух!

Навакола збіўся народ.
Рушыла войска ўпярод
І пачаўся рух:
Кавалерыя,
Артылерыя,
Бясконцыя роты
Пяхоты.

А гарматы-ж! Якія гарматы!
Вораг гляне на іх—дух у пяты.
Жарало
Як дупло
Спаленага дуба.
Не чапай
Ты наш край—
Будзе табе згуба!
Вязуць іх машыны і коні,
Зямля пад імі гамоніць
Рушылі танкі адны за другім,
Глядзіш—і канца няма ім!
Тачанкі пайшлі, кулямёты,
Танкеткі, а ўгары самалёты,
Ды такія-ж ужо штукары:
Рэжуць надземныя нетры,
Робяць мёртвыя петлі ў паветры
Ды сыплюць лістоўкі згары.
Ляцяць яны, як галубкі,
А вецер іх горне ў клубкі,
А яны ад яго—латата.
Зірнуць—адна любата!

За войскам пайшлі і саюзы,
ВУЗЫ
і ВТУЗЫ,
І „сінія блузы“.
Іх сцягі, як макі,
А надпіс — усякі.
Мільгаюць плакаты:
Буржуй на плакаце пузаты,
Кулакі і папы,
Ды такія, што ўбачыць сляпы —
Чэрава—ну на траіх!
Галёканне, смех каля іх.



А трубы грымяць—
Тра-ра-ра!
І крыкі гучаць
Ура!
На другі-ж дзень Мая
Горад выглядае
Трохі ўжо іначай.
Грамадой вясёлай
Ідуць вучні з школаў
І з садоў дзіцячых.
Эма не ўтрывала,
Тут-жа запытала
І Міхасю ў рукі
Козыр дала лішні:



— Ну, а на парадзе
У дзіцячым садзе
Грушы ёсць і вішні?
— Не ведаюць сада,
Ці не дзівакі?
Да гэта-ж як школа,
Гэта дом такі.
Міхась забывае
Вучнёўскі парад,
Тлумачыць,
Што значыць
Дзіцячы іх сад.
У дзіцячым садзе
Ты ў цяпле, даглядзе.
Прыдзеш рана-рана,
Там усё прыбрана,
Хораша і чыста,






Аж блішчыць падлога.
Дзетак многа-многа—
Шумна, галасіста.
А каб мець зарадку,
Зоймуцца спачатку
Дзеці маршыроўкай.
Цёця ім іграе,

Армія ўдалая
Маршыруе лоўка.

У дзіцячым садзе
Цёці—Ніна, Уладзя—
Свая ў кожным класе.
З дзецьмі там гуляюць,
Песні, байкі баюць
Ды ўсё ў сваім часе.

А перад ядою
Чыстаю вадою
Дзеці мыюць рукі—
Снедаў ці абедаў,
Каб парадак ведаў
Першае навукі.
Самі за сабою
І за чыстатою
Пільна сочаць дзеці.
Самі-ж і дзяжураць,
Неахайных жураць—
Чыстаты глядзіце!
Глянуць табе ў вушы,
Брудна—марш пад душы,
Вымыйся, як трэба.
Чыстата, парадак
Без усякіх звадак—
Першая вучоба.
А потым—работа,
    У каго да чаго ахвота.

Ну, возьме хто цацкі,
Дом выстраіць хвацкі
З кубікаў розных, брускоў,
З дошчачак, з іншых кускоў.
Ёсць і канструктар такі—
    Што хочаш складай:
    Трактар, трамвай,
    Аўтамабіль, ветракі...

Ці гуртам складаюць
Заводы, маўзалей—
Гуртам работа
    Яшчэ весялей.

А часам змайструюць астрог,
Каб шкоднік больш шкодзіць не мог
На страх кулаку і буржую—
Не разяўляйся на працу чужую!
А ў час неспакойны
Наладзяць і войны.
Хочаш быць цэлы,
Не лезь да нас, белы!
Не ведаеш нашых ваяк—
Раскрышым у мак,
Стаўчом у куццю,
І будзе вам, белым, ацю.
Ну, словам у садзе
Табе не дакучыць:
Сад цябе песціць,
Сад цябе вучыць.
Слухалі—Эма,
Пятрок і Ігнат:
Цікавая тэма—
Навіна ім сад.
Раскажуць бацькам сваім дома,
Што чулі пра сад ад Міхася.
Свой сад у іх будзе вядома—
Міхась недарэмна быў у калгасе.



## РАЗВІТАННЕ

Лецейка, ты лета,
Гучна песня спета.
Весела было!
Бралі поўнай чарай
Шчодрасць тваю, дары—
Сонца і святло.
Цешыла ты дзетак
Ды ласкава гэтак—
Матчынай рукой:
Воляй маладою,
Цёплаю вадою,
Чыстаю ракой,
Полем і лясамі,
Спевам-галасамі
Ясных дзён тваіх.
Мыла іх расою,
Сонцавай касою
Уцірала іх...
...Чарай асалоду
Чэрпалі, як воду,
Поўнаю, за край.
Залатое лета!
Дык прымі-ж за гэта
Шчырае „бывай!“



★

Рэдактар П. Галавач
Тэхрэдактар Х. Абрамава
Карэктар Н. Касперская
Здана ў друкарню 29|IV-35 г.
Падпісана да друку 27|VII-35 г.
Знакаў у друк. арк. 13.200
Уп. Галоўлітбела №Б 1580
Заказ друкарні № 440
Папера 62×94 1|16
Аб'ём 3 аркуш.
Тыраж 6.185 экз.
Друкарня
імя. Сталіна,
Менск,
Энгельса, 2

★

